ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XX. № 153 | Нью Ёрк | January — Студзень 1970. | New York | Vol. XX. № 153

# НОВЫ БАЛЬШАВІЦКІ НАСТУП У БССР

## ПЕРШАЕ СЛОВА СКАЗАЛА ПАРТЫЯ

Артыкул сакратара ЦК КПБ Станіслава Пілатовіча „Творчая інтэлігенцыя й сучасная ідэялягічная барацьба" ў верасенскім нумары „Полымя" — першае афіцыйнае дырэктыўнае выступленьне партыі ў кірунку строгай рэглямэнтацыі й прывярненьня службовае ролі ўсіх галінаў беларускага мастацтва й культуры.

Пасьля некаторае творчае свабоды ў першай палавіне 60-ых гадоў у выніку дэсталінізацыі, ужо пры канцы 1965 — на пачатку 66 году партыя пачала паступова, але наважана й сыстэматычна ўзноў умешвацца ў дзейнасьць творчае інтэлігенцыі з мэтаю прыбраць цалкам да сваіх рук усе галіны мастацтва й культуры. Першым сымптомам новага партыйнага курсу ў вагульнасаюзным маштабе быў працэс пісьменьнікаў Даніеля й Сіняўскага. Першым гэткім сымптомам у Беларусі сталіся напады партыйнае крытыкі й друку на пачатку 66-га году супраць Васіля Быкава.

Ад гэнага часу партыя робіць сыстэматычныя намаганьні спыніць працэс вызваленьня літаратуры й мастацтва ад партыйных догмаў ды паставіць іх узноў, як і за сталіншчынай, на службу партыі. Але робіцца гэта або шляхам агульных заклікаў трымацца прынцыпаў партыйнасьці й народнасьці літаратуры й мастацтва, або за пасярэдніцтвам інсьпіраваных партыяй крытыкаў, старшыняў творчых саюзаў ды ўслужлівых ёй не за страх, а за сумленьне некаторых пісьменьнікаў і мастакоў.

Згаданае выступленьне ў „Полымі" сакратара ЦК КПБ С. Пілатовіча — фактычна першая афіцыйная дырэктара літаратуры й мастацтву, а таксама першае афіцыйнае зьвінавачаньне працаўнікоў беларускае літаратуры й мастацтва, творчасьць якіх, на думку партыі, нясугучная партыйнай лініі.

Паклікаўшыся на сяньняшняе завайстрэньне двух сьветапаглядаў, Пілатовіч перад беларускімі літаратарамі й мастакамі ставіць наступную дырэктыву: „Уся мастацкая творчасьць — хочуць гэтага ці ня хочуць асобныя мастакі — носіць палітычна завойстраны характар. Несхаваныя палітычныя тэндэнцыі ўрываюцца і ў тэатр, і ў кінавытворчасьць, і ў майстэрні мастакоў. А спроба асобных творчых работнікаў стаць на „нэўтральныя" пазыцыі азначае іх адыход зь перадавых рубяжоў, уступку клясаваму націску буржуазіі". Затым, як цьвердзіць Пілатовіч, „ад кожнага творчага работніка патрабуецца выключная дакладнасьць ідэйна-мастацкіх пазыцыяў".

Адначасна з артыкулам Пілатовічавым зьявіўся ў нумары 15-ым „Коммуниста Белоруссии" за верасень летась артыкул першага сакратара Менскага абкому партыі І. Палякова „Партыйны Камітэт і інтэлігэнцыя", у якім даюцца ўжо канкрэтныя мерапрыёмствы, што павінен рабіць партыйны камітэт, каб уся дзейнасьць творчае інтэлігенцыі Беларусі насіла гэны „палітычна завойстраны характар" ды каб ня было сярод гэтае інтэлігенцыі гэткіх, што прабавалі-б стаць на гэныя „нэўтральныя" пазыцыі.

Што да беларускай мастацкай літаратуры, Пілатовіч уважае, што „на фоне агульнага ўздыму, тых вялізарных дасягненьняў літаратурнай творчасьці, якія дэманстраваліся ў сувязі з 50-годзьдзем Кастрычніка й паўвяковым юбілеем рэспублікі, мы бачым і яе слабасьці". Беларуская сучасная літаратура, на ягоную думку, „навет у тэматычных адносінах . . . прымушае чакаць лепшага". Рэч у тым, што беларуская літаратура, як ён цьвердзіць, зашмат зварачваецца ў мінуўшчыну заміж таго, каб галоўна дасьледваць сучаснасьць, шырэй адлюстроўваць працэс індустрыялізацыі краю, жыцьцё работнікаў і тэму працы.

Адмоўна выказаўся Пілатовіч пра маладога беларускага паэту Анатоля Вярцінскага й апошні ягоны зборнік „Чалавечы знак", як „неаднародны ў ідэйна-мастацкіх адносінах і ў многім супрэчлівы". „Паэтычная „туманнасьць" твораў Вярцінскага, — як літаральна цьвердзіць Пілатовіч, — нічога не сьцьвярджае, ні за што не змагаецца, ня ставіць літаратуру ў арсэнал актыўных сродкаў барацьбы за камуністычныя ідэялы". Васіля Быкава дакарае Пілатовіч за тое, што ён „ніяк ня можа пераадолець бар'ер прыгнечанасьці" ды што „ў ягоных апошніх творах усё яшчэ пераважаюць хварбы цёмныя, змрочныя", што ягоная творчасьць „ніяк ня можа ўзьняцца на вяршыні сваё баявітасьці й прынцыповасьці".

Зь літаратурных крытыкаў Пілатовіч заатакаваў Дзімітра Бугаёва й Віктара Каваленку за іхнае арыентаваньне пісьменьнікаў „у няправільным кірунку" й „падтрымку імі слабых у ідэйна-мастацкім пляне твораў", Алеся Адамовіча за быццам няправільнае насьвятленьне творчасьці Кузьмы Чорнага, ды Сараф'іма Андраюка за ягонае накіроўваньне пісьменьнікаў на паказ звычайнага, шэрага чалавека.

Зь Пілатовічавых зьвінавачаньняў добра відаць, што заатакаваныя ім пісьменьнікі й крытыкі не паказалі й заваду антысавецкіх ці антыпартыйных тэндэнцыяў. Іхная віна адно ў тым, што яны або ў некаторых сваіх творах былі апалітычнымі, або выяўлялі чыста індывідуальныя асаблівасьці свайго таленту.

Ня менш войстра заатакаваў Пілатовіч тэатры Беларусі й кінамастацтва. Ён піша: „Некаторымі драматургамі й тэатрамі ня пераадолена тэндэнцыя, якая зьявілася ў пяцьдзясятыя гады: увесьці пад выглядам наватарства ў практыку савецкага тэатру чужыя нашаму мастацтву й глядачу мэтады й пагляды". Канкрэтна заатакаваў Пілатовіч удзельнікаў тэатральнае дыскусіі, што разгорталася нядаўна ў часапісе „Неман". Зь фільмовых працаўнікоў трапіў пад абстрэл рэжысэр студыі „Беларусьфільм" Вінаградаў за тое, што ён больш рупіцца пра форму, чымся „аб глыбокім пранікненьні ў сутнасьць грамадзкіх праблем, якія браліся ў васнову фільмаў"*).

Падсумоўваючы свае зьвінавачаньні, Пілатовіч наапошку падчыркнуў, што „не бяда, калі мастак памыляецца ў пошуку новага, памылка заўсёды будзе ім-жа самім выпраўлена; горш, калі выдаюцца за новае падсунутыя нам ідэйкі з забруджаных крыніц, каб пасеяць на нашым чыстым полі насеньне дробнабуржуазных поглядаў, нацыяналізму, нігілістычных адносін да таго, што ўжо заваявана". З гэтых Пілатовічавых словаў вынікае, што заатакаваныя ім творчыя работнікі сьвядома ўводзілі ў сваю творчасьць гэныя „падсунутыя ідэйкі з забруджаных крыніц".

Але прыведзеныя Пілатовічам „грахі" згаданых ім пісьменьнікаў, крытыкаў, тэатральных і фільмовых працаўнікоў ані не даюць асноваў для гэткіх цяжкіх зьвінавачаньняў, а ягоныя патрабаваньні ад літаратуры й мастацтва проста нярэальныя. Калі-б беларускае мастацтва стала на патрабаваныя Пілатовічам пазыцыі, яно перастала-б быць мастацтвам, а сталася-б адно прапагандавым рупарам партыйнае палітыкі.

Бясспрэчна, Пілатовічава выступленьне сьветчыць пра далейшае завайстрэньне палітычнага курсу ў дачыненьні да беларускае культуры й мастацтва. Але выдаецца таксама бясспрэчным і тое, што ані пісьменьнікі, ані працаўнікі тэатру й кіно, ані таксама працаўнікі іншых галінаў мастацтва ня здолеюць, калі-б нат і хацелі, задаволіць Пілатовічавых патрабаваньняў, бо гэта было-б раўназначна з адмаўленьнем і запярэчаньнем самое існасьці мастацтва.

*) За гэтыя свае „грахі" В. Вінаградаў быў асабліва войстра заатакаваны загадчыкам аддзелу культуры ЦК КПБ С. Марцэлевам на пленуме Саюзу кінаматаграфістых Беларусі 26 лістапада 1969 г., у выніку чаго быў ён пастановаю гэтага пленуму выкінуты із складу праўленьня Саюзу кінаматаграфістых Беларусі.

# СКАЗАЦЬ НАСТУПНАЕ СЛОВА — ЗМУСІЛІ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Артыкулам сакратара ЦК КПБ С. Пілатовіча ў верасенскім нумары „Полымя" й артыкулам першага сакратара менскага абкому партыі І. Палякова ў нумары 15-тым „Коммуниста Белоруссии" за верасень леташняга году партыя афіцыйна пачала свой новы наступ на беларускую літаратуру з мэтаю поўнага ейнага падпарадкаваньня сваім дырэктывам ды спыненьня тае крыхі творчае свабоды, што ўдалося пісьменьнікам заваяваць у першай палавіне 60-ых гадоў.

Пасьля гэтага заставалася спадзявацца, што партыя пастараецца, каб, падобна да выпрабаванае ў падобных выпадках схэмы, ейныя дырэктывы падхапілі адказныя прадстаўнікі літаратуры й мастацтва ды павялі адпаведную кампанію за дакладнае ўжыцьцёўленьне гэных дырэктываў. Чакаць на патрэбную для партыі рэакцыю доўга не давялося. Бо ўжо ў лістападзе летась адзін за адным выступілі ў гэтым пытаньні прадстаўнікі ўсіх галоўных жанраў літаратуры: малады паэта Хведар Жычка, што займае сяньня вельмі важнае становішча загадчыка рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва „Беларусь", сакратар Саюзу пісьменьнікаў Беларусі й адзін з найвыдатнейшых сучасных празаікаў Іван Мележ, старэйшы літаратурны крытык і літаратуравед Васіль Івашын. Як бачым, ролі былі разьмеркаваныя вельмі дакладна: па адным прадстаўніку ад кажнага галоўнага жанру літаратурнае творчасьці.

Сваё выступленьне ў духу Пілатовічавага артыкулу зрабіў Хведар Жычка на лістападаўскім пісьменьніцкім пленуме. Зазначыўшы, што кажны пісьменьнік павінен „зьвяраць сябе па Леніну" й ні на крок не адхіляцца ад ленінскіх пазыцыяў, Хведар Жычка паказаў на шмат якія адхіленьні ад гэных ленінскіх пазыцыяў у сучаснай беларускай літаратуры. Ён казаў: „На вялікі жаль, у вапошні час, зьявілася нямала твораў, асабліва апавяданьняў, у якіх амаль ня знойдзеш героя, які-б рабіў нешта карыснае . . . З апавяданьня ў вапавяданьне вандруе гэтакі глыбокадумны малады чалавек, якому ўсё на белым сьвеце не да спадобы, нешта гняце, мучыць яго, а што — ён і сам добра ня ведае". Сьледам за Пілатовічам Жычка канкрэтна заатакаваў Васіля Быкава за ягоныя апошнія аповесьці „Праклятая вышыня" й „Круглянскі мост", а таксама апошні зборнік паэзіі Анатоля Вярцінскага „Чалавечы знак", як творы, што, паводля ягоных словаў, „зьяўляюцца ня проста няўдачамі аўтараў, а маюць сур'ёзныя ідэйна-мастацкія пралікі".

Прадстаўнік мастацкае прозы Іван Мележ зрабіў сваё выступленьне ў „Правде" за 25 лістапада ў артыкуле „Дыханьне праўды". У васноўным артыкул гэты дакладнае паўтарэньне галоўных тэзаў і высноваў зь ягонага дакладу на пленуме Саюзу пісьменьнікаў Беларусі 19 лістапада за выняткам аднае вельмі важнае мясьціны, якой у дакладзе праўдападобна ня было. Вось гэтая мясьціна ў „Правде": „Сучасная беларуская літаратура ў цэлым сур'ёзна дасьледуе жыцьцё. А ўсё-ж не-не, ды і адчуеш у іншых творах некаторых маладых — ды і ня толькі маладых — пісьменьнікаў баязьлівасьць у выстаўленьні вялікіх праблемаў часу, уцёкі ў вузкамаральную, дробных імкненьняў праблематыку. Дробнатэм'е — як небясьпека для беларускага апавяданьня — ня выпадкова адзначалася ў дыскусіі пра апавяданьне, што нядаўна адбывалася ў Саюзе пісьменьнікаў рэспублікі".

Вось-жа гэтага дакору пад адрысам некаторых пісьменьнікаў у Мележавым дакладзе на пленуме праўдападобна ня было, бо нічога пра гэта не ўспаміналася ў даволі падрабязным пераказе гэтага дакладу ў „Літаратуры і Мастацтве". Нельга дапушчаць, каб „Літаратура і Мастацтва", асабліва пры цяперашнім сваім галоўным рэдактару, церазь меру ўслужлівым партыйным дзейнікам Леаніду Прокшы, прамаўчала гэны докар пад адрысам некаторых пісьменьнікаў. Выглядала-б тады, што гэтае Мележава зьвінавачаньне некаторых пісьменьнікаў было зробленае пад адпаведным ціскам спэцыяльна для „Праўды". А гэта ўжо мела-б сваю не малаважную вымову.

Зь літаратурных крытыкаў падтрымаць новы партыйны курс у літаратуры выпала на долю Васіля Івашына, што, дарэчы, падобна як і Іван Мележ, ніколі дасюль ня выступаў з падобнымі абвінавальнымі артыкуламі. У сваім артыкуле „Прынцып камуністычнай партыйнасьці ў літаратуры" ў лістападаўскім нумары „Коммуниста Белоруссии" ён у васноўным паўтарыў Пілатовічавы дырэктывы ды заатакаваў агульна тых пісьменьнікаў, у творах якіх, на ягоную думку, зазначаецца „адсутнасьць выразнай партыйнай пазыцыі", што быццам робіць гэтыя творы „ідэйна й мастацка няпоўнацэннымі". У якасьці канкрэтнага прыкладу назваў Івашын Васіля Быкава, бачучы ў ягоным „імкненьні . . . акцэнтаваць увагу галоўным чынам на трагічных калізіях вайны", што зьяўляецца быццам, як кажа Івашын літаральна, „выкрыўленьнем гістарычнай праўды, . . адыходам ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму".

Ува ўсіх гэтых выступленьнях і партыйных кіраўнікоў на Беларусі, і выкарыстаных дзеля гэтага партыяй прадстаўнікоў беларускай пісьменьніцкай грамадзкасьці беларускія пісьменьнікі зьвінавачваюцца не за якія-небудзь супярэчныя партыйнай лініі тэндэнцыі, бо тэндэнцыяў гэткіх у творах сучаснае беларускае літаратуры няма й заваду дый быць ня можа ў сяньняшніх палітычных абставінах. Беларускія пісьменьнікі зьвінавачваюцца за гэткія, здавалася-б, нявінныя рэчы, як палітычна нэўтральны або, інакш кажучы, апалітычны характар некаторых іхных твораў. А гэткае стаўляньне справы ўжо штосьці жахлівае, што дакладна прыпамінае гады сталінскіх пагромаў ды дзікага разгулу вульгарна-сацыялягічнай крытыкі.

Гэткім парадкам беларуская літаратура ўваходзіць сяньня ў фазу новых цяжкіх выпрабаваньняў. Але нельга нат дапускаць, што беларускія пісьменьнікі ў сваёй лепшай бальшыні згодзяцца стацца адно бяздушнымі рупарамі партыйнае палітыкі й прапаганды. За гады дэсталінізацыі беларуская літаратура, падобна як і літаратуры іншых народаў Савецкага Саюзу, гэтак цьвёрда й грунтоўна замацавала свае мастацкія пазыцыі, гэтак станоўча адгарадзілася ад згубнага для мастацкай творчасьці партыйнага дагматызму й нявольніцкай службовасьці, што ў ніякім выпадку не патрапіць яна вярнуцца на пазыцыі часоў сталіншчыны.

**Ст. Станкевіч**

ШАНУЙЦЕ СВОЙ І НАШ ЧАС! НЕ ЧАКАЙЦЕ НА НАШЫЯ ПІСЬМОВЫЯ НАПАМІНАНЬНІ. А ЛЕПШ АДРАЗУ ВЫШЛІЦЕ ПАДПІСКУ НА 1970 ГОД!

*Шчыра вітаем з 80-годзьдзем жыцьця заслужанага й няўтомнага грамадзкага й палітычнага дзеяча, калішняга пасла ад Беларусаў на Польскі Сойм, асабістага прадстаўніка Прэзыдэнта БНР на Паўночную Амэрыку*

АЛЯКСАНДРА СТАГАНОВІЧА

*ды зычым Яму найлепшага здароўя ды памыснасьці ў жыцьці й далейшай працы.*

*Прэзыдыюм Рады БНР і Рэдакцыя „Беларуса"*

# У АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ Ў НЬЮ ЁРКУ

Некаторыя сябры й прыхільнікі Арганізацыі Беларуска - Амэкыканскае Моладзі ў Нью Ёрку правялі ў сыботу 10 студзеня сёлета калядную вечарыну зь ялінкай, калядкамі, танцамі й буфэтам. На вечарыну прыбыла таксама група калядоўшчыкаў зь Ньюбрансьвіцкага Аддзелу АБАМ.

Адбылася заадно й нарада што да далейшае дзейнасьці Ньюёркаўскага Аддзелу АБАМ. І хоць фармальныя перавыбары з прычыны мізэрнае колькасьці прысутных сяброў не маглі адбыцца, то ўсё-ж, на прапанову дасюлешняга кіраўніка Аддзелу АБАМ інж. Вячаслава Станкевіча, пяць асобаў з прысутных далі згоду ачоліць арганізацыю й спрабаваць як-небудзь ажывіць ейную дзейнасьць ды зацікавіць ёю й тых сяброў, што сяньня зусім бязьдзейныя й фактычна апыніліся вонках арганізацыі. Гэтак у новае часовае кіраўніцтва Аддзелу АБАМ увайшлі: Раіса Станкевіч, Галіна Тумаш, Валянтын Гарошка, Юзік Казьлякоўскі й Уладзік Андрыца.

„Не адмаўляйцеся, праяўляйце ініцыятыву, а мы зь Нью Брансьвіку заўсёды Вам паможам!" — казаў на разьвітаньне кіраўнік Ньюбрансьвіцкага Аддзелу АБАМ Аўген Лысюк.

Нельга вінаваціць Ньюёркаўскае моладзі за ейную цяперашнюю абыякавасьць і інэртнасьць да свае арганізацыі, бо-ж ня гэтак яшчэ даўно моладзь гэтая праўляла шырокую дзейнасьць і жыва цікавілася беларускімі справамі. Вінаваціць можна й трэба нашае старэйшае грамадзтва, перш-наперш бацькоў, што свайму маладому пакаленьню не патрапілі прышчапіць любасьці да свайго роднага, не патрапілі ўзгадаваць сваіх дзяцей на гэткіх-жа грамадзян Беларусаў, якімі зьяўляюцца або прынамся зьяўляліся, калі былі маладымі, яны самі.

Хацелася-б пажадаць нашай Ньюёркаўскай моладзі ўзыйсьці на новы арганізацыйны шлях і ўзапраўды ажывіць сваё грамадзкае, нацыянальна - культурнае й сяброўскае жыцьцё, ажывіць сваю арганізацыю. Але яшчэ ў большай ступені хацелася-б пажадаць ейным бацьком і наагул грамадзтву больш паважна ставіцца да моладзі, захвочваць яе да дзейнасьці ды самім даваць у гэтым добры прыклад.

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Др. Вітаўт Тумаш, старшыня БІНім і актыўны дасьледнік гісторыі беларускага друку, прачытаў на навуковым паседжаньні Інстытуту 13 сьнежня 1969 г., рэфэрат „Гэтман Рыгор Хадкевіч і ягонае выдавецтва (Да 400-х угодкаў заблудаўскае друкарні)". Др. В. Тумаш сабраў багаты й цікавы матар'ял пра арганізацыю гэтманам Хадкевічам у 1569 г. у Заблудаве друкарні ды працу ў ёй друкара Івана Фёдарава. Даклад быў выслуханы зь вялікім зацікаўленьнем ды закончыўся жывай дыскусіяй, асабліва на тэму нацыянальнасьці І. Фёдарава.

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

## ЗЬ БЕЛАРУСКАГА РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ У ДЭТРОЙЦЕ

Заснаваная ў 1967 годзе парахвія Сьв. Духа БАПЦ у Дэтройце зьяўляецца цэнтрам, каля якога гуртуецца беларускае рэлігійнае й культурнае жыцьцё Дэтройту й ваколіцаў. Царкоўная Рада асабліва праявіла вялікую актыўнасьць у часе паміж 15 лістападам і 7-ым сьнежнем летась, зарганізаваўшы тры Багаслужбы ў гэтым часе.

16 лістапада адбылася Багаслужба, падчас якой сьв. Літургію адправіў а. Мігай з Таронта. На гэтую Багаслужбу зьявіліся амаль усе актыўныя парахвіяне й некаторыя госьці.

Вельмі энэргічны стараста царквы Мікола Кумэйша якраз быў скончыў 50-ыя ўгодкі свайго жыцьця. Царкоўны хор, які гэтак добра сьпяваў падчас Літургіі, прапяяў старасту „Сто год!", а ўсе прысутныя пажадалі юбіляру шмат год здароўя й шчасьця ў ягоным асабістым жыцьці і далейшых посьпехаў на рэлігійна-нацыянальнай беларускай ніве.

20 лістапада Царква Сьв. Духа мела вялікі гонар і прыемнасьць прывітаць у сябе новага сьвятара а. Віктара Войтэнку, які з матушкаю прыехаў быў у Дэтройт у вадведзіны да сям'і д-ра Ул. Бакуновіча, зяця а. Віктара. Царкоўная Рада пастанавіла выкарыстаць гэтую нагоду й зарганізавала Багаслужбу, падчас якое сьв. Літургію адправіў а. Віктар.

Пасьля Багаслужбы Царкоўная Рада ад імя Парахвіі й прысутных гасьцей прывітала а. Віктара й пажадала яму найлепшых вынікаў у працы на рэлігійнай ніве. Усе прысутныя глыбака былі перакананыя, што а. Віктар даб'ецца вялікіх посьпехаў у ягонай рэлігійна-місіянэрскай дзейнасьці.

У часе сьціплага прыняцьця а. Віктар з матушкай былі прывітаныя старшынём Аддзелу БАЗА ў Дэтройце. У вадказ на прывітаньні а. Віктар пажадаў беларускай калёніі ў Дэтройце добрых вынікаў у працы і заклікаў падтрымоўваць усімі сіламі сваю родную беларускую мову, традыцыі й палітычныя асьпірацыі Беларусаў на эміграцыі.

7 сьнежня Уладыка Мікалай з Таронта, які зьяўляецца сталым духовым апякуном парахвіі Сьв. Духа, адправіў урачыстую архірэйскую Багаслужбу, на якой былі прысутныя парахвіяне й госьці. Пасьля Багаслужбы Уладыка ў васысьце хору Царквы адслужыў Паніхіду па гэроях, што аддалі сваё жыцьцё ў слаўным Слуцкім Паўстаньні. У сваёй чулай і высака патрыятычнай прамове-казані Уладыка падчыркнуў, што несьмяротны чын слуцкіх паўстанцаў павінен быць для нас пуцяводнай зоркай у нашым змаганьні за палітычныя й нацыянальныя правы беларускага народу.

**В. П.**

## ПЕРШАЯ БОЖАЯ СЛУЖБА ПАБЕЛАРУСКУ У ДЭТРОЙЦЕ

У нядзелю, 30-га лістапада летась, а. Віктар Войтэнка, будучы ў Дэтройце, адслужыў Божую Службу для беларускае калёніі. Дата гэная, напэўна, не засталася-б у памяці дэтройцкіх Беларусаў, бо службы БАПЦ на працягу апошняга году адбываюцца тут рэгулярна адзін раз на месяц. Аднак паколькі ўсе папярэднія службы адбываліся, як закон, на царкоўна-славянскай мове, дык апошняя адбылася на мове беларускай. Гэтая мова, якраз, і надала службе спэцыяльнага значаньня.

Вельмі прыгожа пяяў хор (у царкоўна-славянскай мове), хоць часамі адчувалася няпэўнасьць з прычыны няпрывыклага вуха харыстых да службы на беларускай мове.

Для дэтройцкіх Беларусаў гэта была першая служба на беларускай мове, а таму можна было спадзявацца рознае рэакцыі, тымбольш, што БАПЦ і да гэтага часу ня мае афіцыяльнага перакладу царкоўных службаў на беларускую мову. Аднак рэакцыя прысутных на службе была вельмі прыхільная. Гэта выявілася ў прывітальнай прамове магістра В. Пляскача — Сакратара Прыходу Сьв. Духа ў Дэтройце, у прамове сп-ні Пляскач — Старшыні Аддзелу БАЗА ў Мічыган, у прамове сп. Кумэйшы М. — Царкоўнага Старасты, а таксама і ў прыватных выказваньнях многіх прысутных падчас скромнага супольнага пачастунку пасьля службы.

Як паказала практыка апошніх службаў, пераклад царкоўнага служэньня на беларускую мову ня ёсьць недасягальным. Цяперашні пераклад ня быў зроблены спэцыялістамі — магчыма таму лёгка ўспрымаўся малельнікамі. Справа іншая, што пераклад гэны мусіў-бы быць зроблены спэцыялістамі — знатакамі ня толькі царкоўна-славянскае й беларускае моваў, але й царкоўнае музыкі, каб такім чынам словы беларускага перакладу лёгка падыходзілі да царкоўных напеваў. Вось-жа з прычыны адсутнасьці такога перакладу мы ня зможам карыстацца, навет, і сваімі мэлёдыямі. Гэтта я маю на ўвазе ў першую чаргу Літургію напісаную Равенскім.

На апошнім Саборы БАПЦ была вынесеная пастанова зрабіць пераклад Царкоўнага Служэньня на беларускую мову й дзеля гэтай мэты была выбрана адумысная камісія, якая мелася заняцца перакладам. Спадзяёмся, што нам ня прыйдзецца чакаць наступных 20 гадоў, каб атрымаць абяцаны пераклад.

**М. Хацяновіч**

### З ТАВАРЫСКАГА ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ ДЭТРОЙТУ

У суботу 23 лістапада летась Аддзел БАЗА ў Дэтройце зладзіў гадавую вечарыну для сяброў і сымпатыкаў БАЗА. На вечарыну прыехалі навет госьці з Таронта, працягваючы гэтым сваю традыцыю з папярэдніх гадоў.

Жанчыны з Аддзелу БАЗА прыгатавалі вельмі смачны буфэт, а таксама зарганізавалі лятарэю. Усе прысутныя правялі вельмі прыемна час у сяброўскіх гутарках, успамінаючы супольныя перажываньні ў мінуўшчыне ды дыскутуючы пляны на будучыню.

Мілую, цёплую таварыскую атмасфэру вечара ўвесь час падтрымоўвала ведамая ў Дэтройце аркестра Фрэнка Войнара, што цешыла сваімі прыгожымі мэлёдыямі, пашыранымі на Беларусі ў мінуўшчыне.

31 сьнежня Аддзел БАЗА ў Дэтройце зарганізаваў спатканьне Новага Году для сваіх сяброў і гасьцей.

**В. П.**

# З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ

● 2-га лістапада летась дэлегацыя Беларусаў Кліўленду ў складзе сп. сп. Я. Раковіча, М. Гумена й Ю. Гасьцеева прыняла ўдзел у вугорскім сьвяткаваньні з нагоды 13-цігодзьдзя вугорскага паўстаньня супраць маскоўскае акупацыі. У сьвяткаваньні прынялі ўдзел некаторыя кангрэсмэны й палітычныя дзеячы амэрыканскія і іншых нацыянальнасьцяў. Удзельнікі беларускай дэлегацыі былі афіцыйна прадстаўленыя й пазнаёмленыя з прысутнымі.

● 23 лістапада Парахвія БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе адзначала два сьвяты: адно амэрыканскае — „Дзень Удзячнасьці", другое — чыста беларускае — сплата царкоўнае задоўжанасьці.

У „Дзень Удзячнасьці" Беларусы Кліўленду ўзапраўды былі ўдзячнымі Ўсемагутнаму Богу, што паслаў ім гэтулькі веры, сілы й вытрываласьці ад пачатку заснаваньня Парахвіі, куплі дому й пляцу пад царкву, будовы царквы й да канца рэгулярнае сплаты ўсіх даўгоў. Гэты шлях быў ня лёгкі й бяз боскае апекі немагчыма было-б прайсьці яго. Усе перашкоды, што рабілі нам ворагі, а часта й свае блудныя сыны й няверныя Тамашы, мы перамаглі.

Пасьля Багаслужбы пачала напаўняцца царкоўная заля. Каб забясьпечыць усіх месцамі, дзеці былі накормленыя раней. Пасьля агульнае малітвы Уладыка Андрэй пабалагаславіў сталы і ўсе прысутныя пачалі прабаваць смачныя патравы й традыцыйнага індыка. Пра „Дзень Удзячнасьці" даклад прачытаў сакратар парахвіі сп. Ю. Каляда. З нагоды сплаты царкоўнае маёмасьці Уладыка Андрэй прачытаў вельмі добрую інфармацыю, у якой пералічыў усіх заслужаных пры заснаваньні й разбудове Парахвіі. Тут-жа быў спалены „моргіч" (паперы доўгу). Усе прысутныя шчыра радаваліся, што дачакаліся гэтага дня. Прамаўлялі сп. сп. К. Кіслы, архітэктар Назарэц, М. Гумен, дыякан Міхась Страпко й інш.

● 7 сьнежня Кліўлендзкі Аддзел БАЗА адзначыў угодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля звычайнае сьв. Літургіі Уладыка Андрэй у васысьце дыяканаў Калістрата й Міхася адслужыў паніхіду па тых, што аддалі сваё жыцьцё за дзяржаўнасьць Беларусі. Уладыка Андрэй сказаў вельмі патрыятычную й зьмястоўную казань на тэму ўгодкаў.

Палаўдні ў царкоўнай залі распачаўся жалобны сход. Старшыня Аддзелу БАЗА кароткім словам адчыніў сход і папрасіў прысутных хвілінаю цішыні ўшанаваць памяць герояў, што палі ў няроўным змаганьні. Тут-жа быў прапяяны жалобны марш. Вельмі прыгожы рэфэрат прачытаў вэтэран Ю. Гасьцееў. Ён прывёў шмат фактаў і прозьвішчаў, прычынных да вызвольнага змаганьня. У мастацкай частцы былі толькі дэклямацыі, бо зь няведамых (а мо й ведамых) прычынаў хор не сабраўся. Дыякан Міхась прачытаў верш Ул. Караткевіча „Беларуская песьня", Алесь Дунец — верш Н. Арсеньневай „Як татка мой калісьці", а Ю. Каляда — паэму М. Кавыля „Пад небам Случчыны каханай". На заканчэньне адбыўся сьціплы пачастунак.

● 14 сьнежня адбыўся мітынг арганізацыі „Рух Нацыянальнасьцяў". Ад Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА прадстаўніком у гэтай арганізацыі сп. Я. Раковіч, які заўсёды належна рэпрэзэнтуе Беларусаў навонкі. Гэты мітынг быў шматлюдным і ў канцы адбылася калядная сьвяточная бяседа.

● 31 сьнежня Кліўлендзкі Аддзел БАЗА арганізаваў Сустрэчу Новага 1970 Году ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры „Полацак". Гэтым разам не наймалі адмысловай залі й не запрашалі чужых гасьцей, а рабілі больш сямейным спосабам. Усе ўдзельнікі Сустрэчы былі вельмі задаволеныя й прыемна правялі час. Было шмат прамоваў і прыватных сяброўскіх гутарак.

● 10 студзеня сёлета адбылася Ялінка для дзяцей, якую ладзіла Беларуская Сыботняя Школа. Старшыня Бацькаўскага Камітэту Я. Раковіч прывітаў бацькоў, дзяцей і ўсіх прысутных ды падзякаваў усім настаўнікам за працу ў школе ды за падрыхтаваньне праграмы Ялінкі. Тады ўзяў слова кіраўнік БСШколы інж. Ю. Станкевіч, ён-жа й вёў праграму. Перад пачаткам мастацкай праграмы ў залю ўвайшоў сьв. Мікалай (інж. Я. Бруцкі), які сказаў, што ён прыйшоў з далёкае Беларусі і хоча даведацца, чаго дзеці навучыліся ў сваёй роднай школе. У мастацкай частцы дзеці выступалі з вершамі, прапялі пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага тры калядкі: „Дуду", „Ой Калядачкі" і „Зорачкі" ды выканалі два беларускія народныя танцы — „Юрачку" й „Лявоніху". У канцы сьв. Мікалай раздаў калядныя падаркі ўсім прысутным дзецям. Бацькоўскі Камітэт зарганізаваў багаты буфэт зь ядою й напіткамі. Усе былі задаволеныя з выступленьняў дзяцей і доўга праводзілі яшчэ час на гутарках.

**Ул. Дунец**

## СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДУ Ў ТАРОНТА

Навагоднюю вечарыну, якой разьвітвалі мы 1969 і віталі 1970 год, ладзіў Аддзел ЗБК Таронта 31-га сьнежня ў залі БР-ГЦ у Таронта. Руплівасьць арганізатара, старшыні Аддзелу ЗБК, сп. Барыса Кіркі, вычувалася ўжо ўсім чыста й гэта цешыла.

Грала аркестра Б. Лішчонка. Наглянсаваная падлога, добрыя танцоры (і такія былі) і рытмічнасьць безканкурэнцыйнага вальса плаўна насілі танцорак амаль у паветры. Рытміка й паслухмянасьць ёй — безь яе няма ні жыцьця, ні здароўя, ні парадку, ані прыгажосьці. Паглядзіш на туалеты дам... толькі пра рытміку, хоць яна й ёсьць фактам, у справаздачы мусіць ня пішацца, але да туалет вернемся. Сукенкі сёлета былі або вельмі кароткія, або вельмі даўгія, чаравічкі — як сузор'і — або сярэбраныя, або залатыя, валасы — або свае, або чужыя... „Век дваццаты, век харошы..." і запраўды ён харошы. Шкада толькі, што разам з нашым так шпарка ён уцякае...

Музыка часьцяка грала мэлёдыі беларускія: „Люблю наш край...", „Лявоніху". Толькі „Лявоніху" танцавалі ня так, як гэта некалі бывала на вечарынах Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні (каб ён яшчэ жыў, яму ішоў-бы 50-ты год), а так, як каму ўздумаецца. Віна тут выключна нашых мужчын. Каб між іх не знайшлося ніводнага танцора, які ўзяў-бы ініцыятыву ў моцную руку й пакіраваў пару дзесяткамі пар?!

Калі сьціхала аркестра, асабліва каля аднаго стала, пачыналі пяяць. Юнацкія й вайсковыя песьні, прыкладам, „Ідуць жаўнеры Беларусы..." выходзілі трохі за крыкліва, але народныя—„Васілёчкі"—добра, ды найляпей выходзіла лірычная эміграцкая: „Дні надходзяць, дні праходзяць, дні лятуць..." У ёй вылівалася душа, сум і туга ды трагэдыя эмігранта.

Ізноў ударыла аркестра, патухла сьвятло й яшчэ адно дзесяцігодзьдзе прайшло ў нябыт. Віталі з Новым 1970-тым годам: старшыня Аддзелу ЗБК у Таронта сп. Б. Кірка, старшыня ЗБЖК д-р Р. Жук-Грышкевіч, старшыня Галоўнай Управы ЗБК сп. М. Ганько, старшыня Парахвіяльнай Рады БАПЦ сп. Ул. Цялеш. Жадалі здароўя, шчасьця й памыснасьці.

А 1969-ты быў добрым годам, мо' ня ўсім людзям на сьвеце, але для беларускае клаёніі, згуртаванае вакол Беларускага Рэлігійнага Грамадзкага Цэнтру ў Таронта, быў ён багаты на падзеі, працу й высілкі дый немалыя дасягненьні. Таму й разьвітвацца зь ім не ахвота. І Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады яшчэ аддасьць яму пашану й падзяку старым беларускім звычаем на „Шчадруху". У сыботу, 10-га студзеня адбудзецца „Навагодняя вечарына паводля старога стылю".

**Р. Ж-Г.**

# ТАМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ РЭПІНСКІ "БЕЛАРУС"

Хто ня ведае этуда Рэпіна „Беларус"? Гісторыя беларускага народу складаецца бадай з аднае злыбяды, і часам іншыя народы спрабавалі пахаваць яго жыўцом, а вось тыповы Рэпінскі „Беларус", вольна абапершыся на агароджу, зь незалежным выглядам, з пачуцьцём чалавецкае годнасьці, шчыра й без варожасьці глядзіць на нас. Хай на ім паверх ружовае кашулі даматканая і разам з тым беласьнежная сьвітка, падперазаная хатняга-ж вырабу шырокім зялёным поясам з чырвонымі кутасамі, але ён, творча адкрыты Рэпінам, нічым рашуча не нагадвае „Мужыка з палахлівых", створанага мастаком у 1877 годзе. Дзе-ж нарадзіўся ды з каго намаляваны гэты дасканалы й вычарпальны патрэт, у якім адбіліся нашыя нацыянальныя рысы?

У 17-ці вярстах ад Віцебску, на беразе хуткае Дзьвіны, каля аднаго зь ейных шматлікіх далямітавых парогаў з характэрным назовам — Закладзень, знаходзіўся калісьці маленькі, але ўтульны маёнтак. У сваім лісьце да Трэцьцякова ў 1891 г., мастак паведамляе: „Я набыў пад Віцебскам маёнтак, вельмі сымпатычнае месца Здраўнева". Тарханаву ў наступным годзе ён піша: „Набыў! І ў захапленьні — прыгожы куток! Цяпер усе думкі там". А дасылаючы тады-ж адсюль Вяроўкінай малюнак дому, над якім надбудаваў вежу-майстроўню, адзначае: „У мяне кіпіць жыватворная работа. Тут так усё добра, здорава, натуральна. І надвор'е цудоўнае: прыемнае паветра, гаючая вада ў Дзьвіне, смачныя садавіна й гародніна... Месяц залівае палі, эфэктоўныя да фантастычнасьці робіць лясы, зіхаціць і іскрыцца дыямантамі ў парогах Дзьвіны".

У Здраўневе Рэпін пражыў да 1900 году, калі пераехаў у Фінляндыю, але тут яшчэ 30 год жыла ягоная першая сям'я. За свой тутэйшы пэрыяд мастаком намалявана каля 40 работаў, а паміж імі, апрача этуда „Беларус" і „Селянін", абразы „Асеньні букет", „Паляўнічы", „Паненка ў садзе" і скончаны „Дуэль", які да сьлёз ухваляваў Льва Талстога. Беларусь адбілася ў гэтых ягоных палотнах, як „Казаньне Ёзэфата Кунцэвіча", „Сад у Здраўневе", „Усход сонца над Дзьвіной", „Парог Залёная Руба", „Стары курган", „Парог Закладзень", „Лайба на Дзьвіне" ды іншыя. І захоплены вакольнымі краявідамі, Рэпін піша Стасаву: „Дзьвіна імчыць міма нас. Як птушкі пралятаюць па ёй плыты з буданчыкамі і правіламі, і пыхкаючы марудна паўзе супраць плыні параход".

Зусім натуральна, калі жыцьцё й дзейнасьць Рэпіна ў Здраўневе знайшлі шырокі адбітак у тагачасным і сучасным друку, але, на жаль, не пазбаўлены буйных памылкаў, паходжаньне якіх часам яўна тэндэнцыйнае. Гэтак у кніжцы „Гарады і сёлы Беларускай ССР", выданай у 1954 годзе ў Менску, а ўсьлед за ёй у томе „Беларусь" з 22-тамовага выданьня „Савецкі Саюз" (Масква, 1967 г.) сьцьвярджаецца, што: „У часе Айчыннае вайны маёнтак І. Рэпіна быў разбураны й спалены фашыстоўскімі захопнікамі". Ці хіба-ж гэтае адпавядае праўдзе? Таксама А. Рабкін у сваім артыкуле „Я ня бачыў такіх суніц", зьмешчаным у № 8 „Беларусі" за 1968 год, піша, што натуршчыкам для „Беларуса", нібы, паслужыўся селянін Сідар Шаўроў зь вёскі Сахарава. Ягоную хібу выправіў А. Мажэйка, які ў нарысе „З каго Рэпін пісаў „Беларуса", апублікаваным ім у „Голасе роздзімы" за кастрычнік 1969 г. цытуе ліст самога Рэпіна: „За ракой, насупраць нас, жыў селянін Сідар Шавура, ён і пазаваў мне стоячы на вуліцы перад акном маёй майстэрні". Але аўтару забракла мужнасьці. Гэтак вызначаючы, што Рэпін свой ліст даслаў да беларускага эміграцыйнага выданьня, якое выходзіла ў 20-х гадох у Чыкага, А. Мажэйка па зразумелых нам прычынах ня ў стане дадаць, што тым выданьнем зьяўлялася газэта „Беларуская Трыбуна", а яе рэдагаваў і выдаваў першы прэм'ер міністар Ураду Беларускай Незалежнай Рэспублікі ў 1918-м годзе Язэп Варонка, памёрлы 6-га чырвеня 1952-га году на чужыне.

У 1939-м годзе мне давялося не аднойчы — і на чале экспэдыцыі па ўліку помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва, як і паасобку — наведаць Здраўнева. Тады-ж мы ўвачавідкі пераканаліся — а гэтае перакананьне знайшло адбітак і ў складзеным намі навуковым пашпарце помніку і ў друку (Юрка Віцьбіч — Рэпін у Беларусі — „Літаратура і мастацтва", № 17 за 1939-ы год) — што ад дому зь вежай-майстроўняй застаўся толькі падмурак. У 1931-м годзе адсюль выехала да Рэпіна ягоная малодшая дачка Тацяна Язева, а налета тутэйшыя ўрадоўцы, з дазволу віцебскіх, разбурылі бяз усякае патрэбы дом ды высяклі бярозавыя й хваёвыя прысады, насаджаныя самым Рэпінам. Маляўнічы сад, што адбіўся на палотнах мастака, вымаразіла суворая зіма 1939-га году, і захаваўся толькі пасаджаны ім дуб, аб чым сьветчыла каменная пліта з высечаным на ёй жолудам. А ўсё-ж паблізу ад Здраўнева тады бадай усьцяраглося ад супольнага спусташэньня роднае й дарагое для Рэпіна.

Хоць старшыня сельсавету й загадаў зьнішчыць у бліжэйшым сяле Слабадзе - Вярхоўі старажытную драўляную царкву 17-га стагодзьдзя ў іканастасе якой былі абразы намаляваныя Рэпінам, аднак засталіся занядбаныя магілкі пры ёй. На іх, пасьля доўгіх пошукаў, мы знайшлі магілу бяз помніку й крыжу з надпісам дый самы ейны грудок, парослы пустазельлем, напалову зраўняўся зь зямлёй. Ляжаў у ёй памерлы ў 1894-м годзе ў Здраўневе, увасоблены ў вядомым патрэце, Яўхім Васільевіч Рэпін, якога мастак ласкава называў „баценькай", а аб сабе гаварыў: „Я-ж мужык, сын адстаўнога радавога, што працягнуў дваццаць сем, ня вельмі шчасных год мікалаеўскай салдатчыны".

Аднак дарма мы шукалі сьледу калісьці маладога й вясёлага Сідара Шавуры. Навет ягоныя аднавяскоўцы на нашае запытаньне аб ім адмоўчваліся. І зусім выпадкова мы дазналіся, што ў часе прымусовае суцэльнае калектывізацыі яго разам з усёй сям'ёй выслалі на поўнач Уралу. Ці наўрад ён адтуль зьвярнуўся, бо калі спакідаў назаўсёды Беларусь, меў за плячыма шесьцьдзесят з чымсьці працавітых сялянскіх год. Вельмі сумлеўна, каб захаваўся цяпер у Здраўневе навет падмурак таго дому, дзе жыў і тварыў Рэпін. Толькі сымбалізуючы сабой і творчасьць вялікага мастака і душу зразумелага ім народу, паміж якога ён нейкі час жыў і тварыў, паранейшаму не змаўкаючы грыміць дыямантавы і ў сонечныя дні і ў месячныя ночы зацяты Закладзень.

**Юрка Віцьбіч**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Памёр Пятро Глебка.** Як падаў беларускі савецкі друк, „18 сьнежня 1969 году пасьля цяжкай хваробы памёр выдатны беларускі пісьменьнік, акадэмік-сакратар аддзелу грамадзкіх навук АН БССР, вядомы грамадзкі дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савету БССР Пятро Фёдаравіч Глебка... На працягу 25 гадоў П. Глебка працаваў у Акадэміі навук БССР — загадчыкам сэктару слоўнікаў, дырэктарам Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру, акадэмікам-сакратаром аддзелу грамадзкіх навук. З 1950 году ён — член-карэспандэнт, а з 1957 г. — праўдзейны член Акадэміі навук БССР".

Пахаваньне нябожчыка адбылося 22 сьнежня ў Менску.

**Дынаміт нацыяналізму.** У Савецкім Саюзе ў сярэдзіне студзеня сёлета быў праведзены перапіс жыхарства. Вынікі перапісу йшчэ ня ведамыя. Заходнія назіральнікі прыпушчаюць аднак, што перапіс пакажа Расейцаў, як лікавую меншыню ў Савецкім Саюзе, а гэта значыць, што нацыянальная праблема ў СССР набудзе йшчэ большае дынамікі, чымся дагэтуль. Як падаў амэрыканскі часапіс „Ньюзўік" (12. I. 70), адзін з экспэртаў савецкіх нацыянальных праблемаў, праф. Калюмбійскага ўнівэрсытэту Збігнеў Бжэзінскі ўважае, што „наступнымі дзесяцігодзьдзямі нацыянальная праблема ў Савецкім Саюзе станецца ў палітычным сэньсе важнейшай, чымся расавая праблема ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі".

**Мэмарыял Парыскага Блёку ў Задзіночаныя Нацыі.** Ліга Вызваленьня Народаў Савецкага Саюзу, ведамая таксама як Парыскі Блёк, у склад якое ўваходзяць і Беларусы, выслала 20 сьнежня 1969 году У Тану, Генэральнаму Сакратару Задзіночаных Нацыяў, мэмарыял у вабароне Крымскіх Татараў. У мэмарыяле просьба да Генэральнага Сакратара АЗН перадаць яго ў Камісію Людзкіх Правоў, каб яна разгледзела народагубную палітыку савецкага ўраду ў дачыненьні да Крымскіх Татараў. У мэмарыяле кажацца таксама, што камуністычны рэжым СССР праводзіць далей палітыку расейскіх цароў, скіраваную на поўную русыфікацыю нерасейскіх нацыянальнасьцяў, пагражаючы ім навет фізычным вынішчэньнем.

Мэмарыял падпісалі старшыня Лігі сп. М. Лівіцкі і сакратар Лігі сп. Алі Акіш. Копіі мэмарыялу высланыя таксама іншым дэлегацыям АЗН.

**Кім заселеныя савецкія канцлягеры?** Паводля амэрыканскага часапісу „Ньюзўік" (за 12 студзеня сёлета, б. 30), палавіну канцлягернікаў у СССР — „буржуазныя нацыяналістыя".

**Як „сьвяткуюцца" ўгодкі абвешчаньня БССР.** Радыястанцыя „Савецкая Беларусь", што сваймі праграмамі замыльвае вочы беларускім эмігрантам, у сваёй перадачы напярэдадні Новага Году паведаміла: „Заўтра ўсе працоўныя нашай рэспублікі будуць адзначаць сваё нацыянальнае сьвята. Роўна 51 год назад першага студзеня 1919 году часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі апублікаваў маніфэст аб абвяшчэньні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а праз месяц у Менску адбыўся першы зьезд рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, які заканадаўча замацаваў стварэньне ўпяршыню ў гісторыі беларускага народу сувэрэннай беларускай дзяржавы".

Толькі таго „сьвята" й было што плявузгнула пра яго КДБэўская экспазытура, радыястанцыя „Савецкая Беларусь". Ніводная газэта ў БССР пра „нацыянальнае сьвята"— угодкі абвешчаньня „сувэрэннай беларускай дзяржавы" і словам не заікнулася.

**Курс беларусаведы ў Лёндане.** Сёлета Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане, Вялікабрытанія, праводзіць чацьверты гадавы курс беларускае гісторыі, літаратуры й мастацтва. Выкладчыкі курсу: праф. А. МакМілін, а. А. Надсон, др. Р. Фрэнч, біскуп Ч. Сіповіч, сп. Г. Пікарда, праф. Дж. Дынглі. Наведвальнікі курсу, даступнага для ўсіх зацікаўленых, маюць магчымасьць карыстацца кнігамі й архівамі Беларускае бібліятэкі пры Доме айцоў Марыянаў.

**Мастацка-выдавецкі клюб „Пагоня" ў Таронта,** Канада, надрукаваў асобным выданьнем нарыс у ангельскай мове сп. К. Акулы пра Беларусь пад заг. „Край у ваковах". Праводная тэма нарысу — змаганьне беларускага народу супраць маскоўскіх панявольнікаў ды нязломнае перакананьне Беларусаў, што ў канчальным выніку беларускі народ у гэтым змаганьні пераможа. У нарысе пададзеныя таксама асноўныя факты пра Беларусь і беларускую эміграцыю ды зьмешчаная абвестка зварачацца па далейшыя інфармацыі, а таксама кніжкі й кружэлкі з музыкай, на адрыс „Пагоні": 524 St. Clarens Ave., Toronto 4, Ont., Canada.

**Зьмена фармату й пэрыядычнасьці „Літаратуры і Мастацтва".** Орган Міністэрства культуры й праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР газэта „Літаратура і Мастацтва" 13 студзеня сёлета паведаміла ў сваей перадавіцы наступнае:

„Неўзабаве, хутчэй за ўсё з пачатку другога кварталу гэтага году, ‚Літаратура і Мастацтва' пачне выходзіць ня два разы на тыдзень на чатырох старонках, як цяпер, а адзін раз на тыдзень, паменшаным удвая фарматам, але на 16 старонках".

Што абазначае гэтая зьмена?

Рэдакцыя „ЛіМ" у тэй-жа перадавіцы заявіла, што зьмена фармату й пэрыядычнасьці (газэтная плошча застаецца тая самая) робіцца патое, „каб даць магчымасьць ярчэй выявіцца прафэсіяльнай крытыцы, літаратуразнаўству, мастацтвазнаўству, каб разнастаіць іх жанры і формы". Рэдакцыя адначасна запрасіла чытачоў газэты выказацца пра мэтазгоднасьць зьмены гэткімі словамі: „А што скажаце вы наконт задумы рэдакцыі? Якім хочаце бачыць **штотыднёвік** ‚Літаратура і Мастацтва'?". Як бачым, пра „ЛіМ" ужо кажацца як пра „штотыднёвік". Значыцца, пастанова пра зьмену пэрыядычнасьці прынятая ўжо.

Асноўны сэнс гэтае зьмены той, што „ЛіМ" у вялікай меры страціць свой газэтны характар, а набудзе больш характару часапіснага. Страціцца з гэтым і дасюлешні ўплыў газэты на культурна-арганізацыйнае жыцьцё рэспублікі. „ЛіМ" быў дагэтуль адзінай **газэтай** у БССР, прысьвечанай нацыянальна - культурным пытаньням БССР, часта пытаньням бягучага арганізацыйнага парадку. Выхад газэты два разы на тыдзень даваў магчымасьць займацца гэтымі пытаньнямі, часта прынцыпова важнымі, апэратыўна й цірэдчас з добрымі вынікамі. Перавод газэты на тыднёвік пацягне за сабой і зьмену ейнага характару — яна станецца больш форумам дзеля абмяркоўваньня пытаньняў акадэмічных, а не арганізацыйных. Пытаньні-ж арганізацыйныя пусьцяцца на самацёк, у выніку чаго русыфікацыйная акцыя ў БССР будзе мець менш перашкодаў.

**У СССР 15 міліёнаў працаўнікоў не працуюць.** Як падала газэта „Нью-Ёрк Таймс" (13. I. 70), паводля падлікаў савецкіх экспэртаў, грамадзяне СССР прастойваюць у чэргах па харчы й тавары 30 міліярдаў чалавека-гадзін на год. Затрата часу на чэргі раўняецца гадавой працы 15-ёх міліёнаў чалавек.

**„Лёгіка" „Беларускага Голасу".** Выдаваная ў Таронта, Канада, месячная газэціна „Беларускі Голас" (№ 179) зьвінавáціла „Беларуса" ў перадрукоўваньні твораў беларускіх савецкіх паэтаў. Гэта, паводля „БГ", „правакацыя" — наводжаньне падазронасьці збоку дзяржаўных органаў бясьпекі на беларускіх савецкіх пісьменьнікаў. Тымчасам „Беларускі Голас", ці дакладней — ягоны рэдактар-выдавец С. Хмара, сам выдаў нядаўна 9-ты нумар літаратурнага зборнічка „Баявая Ускалось", у якім 18 балонак (усіх 34) — перадрук вершаў сучасных беларускіх савецкіх паэтаў.

**„Ганебныя біяграфіі" ў БелСЭ.** Украінская савецкая газэта „Літаратурная Ўкраіна" (13. 1. 70) надрукавала вельмі прыхільную рэцэнзію на першы том Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі, што выйшаў у Менску напрыканцы леташняга году. Аўтар рэцэнзіі — Мікола Бажан галоўны рэдактар „Украінскае Энцыкляпэдыі". Бажан, між іншага, адзначыў, што ў БелСЭ, у артыкуле „Акупацыйны рэжым", пададзеныя „сьпіскі матар'яльных і культурных каштоўнасьцяў, пагробленых і зьнішчаных фашыскімі акупантамі ды іхнымі нацыяналістычнымі паслугачамі, чые ганебныя біяграфіі таксама зьмешчаныя ў энцыкляпэдыі з адпаведнымі засьцярогамі".

## БЕЛАРУСКІ ПАРАХВІЯЛЬНЫ МАГІЛЬНІК У ІСТ БРАНСЬВІКУ

Усе, каму даводзілася наведваць Беларускі Парахвіяльны Магільнік у Іст Брансьвіку, Нью Джэрзі, ведаюць, якой балючай праблемай была дарога-даезд да яго, а таксама дарога на самым магільніку. Асабліва гэта адчувалася пасьля кажнага большага дажджу або веснавой ці восенскай парой.

Цяперака дзякуючы стараньням Царкоўнае Рады БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці, праблема гэтая больш ня існуе, бо колькі тыдняў таму была праведзеная роўная як стол і даволі шырокая (16 футаў) асфальтавая дарога ў форме падковы даўжынёю каля 680 футаў. Гэта на самым магільніку. Што-ж датычыцца даезду да яго з галоўнае дарогі, то й ён у дастатковай меры ўпарадкаваны, выраўнаваны й падсыпаны бітым каменем.

Але разьвязаньне розных праблемаў амаль заўсёды нараджае іншыя праблемы. Гэтак і тут, паўстала праблема грошай. Штопраўда Царкоўная Рада мела некаторыя фонды, прызначаныя на дарогу, але іх не хапіла, і заплачана дасюль толькі палавіна належнасьці, што выносіць 3,500.00 даляраў.

Дзеля папаўненьня фондаў Царкоўная Рада зладзіла 23 лістапада „Дажынкі-бліны". Руплівыя, як заўсёды, гаспадыні сп-ні О. Сільвановіч, Г. Русак і Е. Літвіненка частавалі прысутных аладкамі зь верашчакай ды іншымі прысмакамі, а хто меў жаданьне ды здароўе дазваляла, запіваў усё гэта чымсьці мацнейшым або слабейшым, залежна ад густу.

Сп-ва Тамаш і Ганна Супруны ахвяравалі на лятарэю прыгожа сьпечанага і ўдэкараванага індыка (бо-ж і Дзень Удзячнасьці не за гарамі). Сп. Леў Стагановіч, на чыё шчасьце выпаў індык, аддаў яго на ліцытацыю. І калі тройчы было абвешчана 10 дал. і ніхто не запрапанаваў больш, „турак" (прабачце, індык) пайшоў другі раз пад нож. Лятарэя разам зь ліцытацыяй папоўніла касу Царкоўнае Рады роўна на 50 даляраў. Нешта таксама „капнула" й за аладкі.

Аднак гэтая сума яшчэ далёкая ад тэй, што павінна пакрыць кошт дарогі, а, апрача дарогі, існуюць і іншыя патрэбы для поўнага ўпарадкаваньня магільніку: агародка, брама й г. д.

Дык, Дарагія Суродзічы! З упаўнаважаньня Царкоўнае Рады дазвольце зьвярнуцца да Вас із заклікам: урэгулюйце Вашую задоўжанасьць за купленыя месцы на магільніку і, калі Вы ўзапраўды Людзі Добрае Волі, злажыце хоць невялікія ахвяры на гэтую мэту.

Хоць магільнік зьяўляецца собскасьцяй Парахвіі, але перш-наперш ён беларускі. За 10 год ягонага йснаваньня на ім ляжаць нашыя царкоўныя, культурныя й грамадзкія дзеячы: а. а. мітрафорныя пратаярэі Данілюк і Войтэнка — адбудоўнікі аўтакефаліі нашае Царквы. У дадатку, а. Х. Данілюк змагаўся за нашае вызваленьне ня толькі з крыжам у руках, а 49 год таму і ў радох тых, што „пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Тутака ляжыць удзельнік Сабору ў Канстанцы Н. Краўцэвіч, настаўнікі й выхаваўцы колькіх пакаленьняў д-р А. Орса й М. Перагуд-Рагажэцкі, сябра Рады БНР У. Кабушка й іншыя.

Тут-жа ляжаць і нашыя найбліжэйшыя, тутака, калі атамная завіруха не спапяліць нашыя косьці, ляжам і мы самі. Ляжам пад помнікамі зь беларускімі напісамі і пад бярозкамі або кветкамі, што пасадзяць нашыя дзеці або сваякі.

**Мясцовы**

## СПОРТ У БССР

— У барукацкіх змаганьнях паміж зборнымі камандамі БССР і Румыніі, што прайшлі ў Менску, перамаглі Беларусы.

— Алімпійская чэмпіёнка мянчанка Алена Новікава (рапіра) стала пераможніцай у фэхтавальным чэмпіянаце сьвету, што адбыўся ў кастрычніку ў Гаване. На гэтым самым чэмпіянаце таксама мянчанін экс-чэмпіён сьвету Аляксей Нікапчыкаў (шпага) атрымаў сярэбраны мэдаль.

— На стралецкім чэмпіянаце СССР мянчанін Віталь Пархімовіч здабыў пяць залатых і шэсьць бронзавых мэдаляў. Зборная каманда БССР заняла пятае месца, атрымаўшы 21 мэдаляў, а ў гэтым ліку і 10 залатых.

— Зь гімнастыкаў 16 краёў, што выступілі на турніры ў Любляне (Югаславія), Беларуска Тамара Лазаковіч заняла другое месца.

— На чэмпіянаце СССР у спартовай гімнастыцы беларускія гімнасткі занялі трэйцяе прызавое месца.

— У таварыскіх паказах лепшых гімнастых Японіі й СССР, што адбыліся ў менскім палацы спорту, бралі ўдзел і беларускія гімнасткі — віцяблянка Тамара Лазаковіч ды Вольга Корбут з Горадні.

— У гімнастычных сусьцігах Японія — СССР, што адбыліся ў Ленінградзе, Т. Лазаковіч стала на другое месца.

— У сусьцігах за кубак СССР у акрабатыцы (Алма-Ата) сем беларускіх спартавікоў занялі другія месцы ў розных спраўнасьцях. Зь беларускіх удзельнікаў — 11 атрымалі ўзнагароды.

— У чэмпіянаце СССР у цяжкой атлетыцы (Львоў) мянчанін Ф. Белянкоў (лягчэйшая вага) ўстанавіў рэкорд выціскам 120.5 кг. У суме клясычнага трохборства беларускі штангісты заняў першае месца (352.5 кг.).

— Сустрэча шахматыстых БССР зь нямецкімі ў Усходняй Нямеччыне скончылася вынікам 22,5:17,5 на карысьць Беларусаў.

— Паляваньне на зайцоў, лісіцаў, ласкаў, гарнастаёў, тхароў, куніцаў, зыдраў і норак было дазволенае ў БССР ад 9 лістапада 1969 г. да 18 студзеня 1970 г. па тры дні ў тыдні — сыботы, нядзелі й панядзелкі.

— Наваградзкаму рыбалову Г. Плескачу пашанцавала злавіць у Нёмане каля в. Гнесічы сома, што важыў 15 з палавінаю кг. ды ўдоўжкі мерыў 132 цм.

### ВЕЧАРЫНА Ў АШАВЕ

Беларуская Самапомач у Ашаве можа цешыцца посьпехам зладжанай у сыботу 22 лістапада вялікай вечарыны, якая была спалучаная з днём нараджэньня былога старшыні Беларускай Самапомачы Мікалая Бохара. Заля была біткам набітая гасьцямі розных нацыянальнасьцяў, а жанчыны з БС падрыхтавалі супольную перакуску. Аркестра Б. Лішчонка добра парупілася пра настрой прысутных. Прыбытак зь вечарыны быў прызначаны сябру БС Янку Мышкоўскаму, які прайшоў зацяжную хваробу.

**А.—іч**

### НАВАГОДНІ ВЕЧАР У АШАВЕ

Беларусы Ашавы (Канада) вельмі ўрачыста сустракалі супольна з гасьцямі зь іншых мясцовасьцяў Новы 1970 Год на супольным вечары ў украінскай царкоўнай залі ды пры супольнай закусцы й выпіўцы. Пра настрой рупілася музыка з кружэлак і магнэтафонных стужак. Старшыня Беларускай Самапомачы В. Харэвіч прывітаў прысутных і пераказаў найшчырэйшыя пажаданьні на Новы Год. Зарганізаваная ў часе вечару лятарэя дала нядрэнны прыбытак у касу арганізацыі.

**А.—іч**



### БЕЛАРУСАМ КАНАДЫ

прыпамінаем, што пры каталіцкай Архідыяцэзіі ў Таронта існуе „Беларускі Дабрадзейны Фонд" — Belorussian Charity Fund, заснаваны ў 1965 г. дзеля зьбіраньня ахвяраў на Беларускую Школу імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане (Ангельшчына). Ахвярадаўцы атрымоўваюць з Архідыяцэзіі паквітаваньні, якія можна выкарыстаць дзеля падаткавай зьніжкі. Чэкі выпісваць на: The Belorussian Charity Fund — Archdiocese of Toronto і перасылаць на адрыс: Archdiocesan Charity Office (Finance Office — Belorussian Charity Fund), 55 Gould Street, Toronto 200, Ont. Canada.

### ШУКАЮ

сыноў Браніслава Рама624ўскага 1923 году нараджэньня й Канстанціна Рамаоўскага 1926 году нараджэньня, што згубіліся ў часе вайны. Абодвы служылі ў нямецкай арміі. Шукае іх бацька Іван Рамаоўскі. Весткі слаць на адрыс:

Mr. J. Romanowski
62 Durban Street
Belmont 6104
W. Australia

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

За апошні месяц (ад справаздачы ў папярэднім нумары газэты) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":

| | |
|---|---|
| 1. А. Беленіс | $ 100.00 |
| 2. Д-р А. Занкавіч | 100.00 |
| 3. Д-р В. Рамук | 50.00 |
| 4. В. і М. | 50.00 |
| 5. Галенік Бар у Нью Брансьвіку (за абвестку) | 25.00 |
| 6. Унівэрсытэт Чыкага | 12.00 |
| 7. В. Богдан | 10.00 |
| 8. Я. Чарнэцкі | 10.00 |
| 9. М. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 10. П. Яськевіч | 10.00 |
| 11. М. Прускі | 10.00 |
| 12. В. Казлоўскі | 10.00 |
| 13. М. Мароз | 10.00 |
| 14. Л. Савёнак | 10.00 |
| 15. Інж. С. Кісель | 10.00 |
| 16. М. Сьнежка | 10.00 |
| 17. А. Шукелайць | 10.00 |
| 18. С. Мядзьведзкі | 10.00 |
| 19. П. Кулеш | 10.00 |
| 20. Я. Азарка | 10.00 |
| 21. Б. Даніловіч | 10.00 |
| 22. Л. Стагановіч | 10.00 |
| 23. С. Гутырчык | 10.00 |
| 24. Г. Дубяга | 6.00 |
| 25. Я. Кузьменка | 6.00 |
| 26. Я. Літвіненка | 6.00 |
| 27. С. Блоцкі | 6.00 |
| 28. А. Махноўская | 6.00 |
| 29. Э. Жызьнеўская | 5.00 |
| 30. Лінгвістычны інстытут (абвестка) | 1.50 |

**БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ**

| | |
|---|---|
| 31. Д-р Р. і В. Жук-Грышкевічы | 30.00 |
| 32. С. Мацукевіч | 10.00 |
| 33. П. Попель | 10.00 |
| 34. А. Маркевіч | 10.00 |
| 35. К. Каранеўскі | 10.00 |
| 36. Б. Сладкоўскі | 10.00 |
| 37. Праф. С. Сьвяневіч | 6.00 |
| 38. В. Навіцкі | 6.00 |
| 39. М. Кухарчык | 6.00 |
| 40. А. Монід | 6.00 |
| 41. В. Варанэцкі | 6.00 |
| 42. М. Таўпека | 6.00 |
| 43. Т. Даўгер | 3.00 |
| 45. А. Харавец | 2.50 |
| 46. Зь індывідуальнай прадажы | 1.50 |
| **Усяго разам:** | **$ 671.50** |

Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!

### АПЛАТЫ ЗА АБВЕСТКІ, КЛІШЫ Й СЯМЕЙНУЮ ХРОНІКУ

1. **За абвесткі:** за адзін квадратны інч тэксту — 1.50 дал., за кажнае паўтарэньне—1.00 дал. за адзін квадратны інч.
2. **За пахаронныя абвесткі (кляпсыдры) і сямейную хроніку:** 0.75 дал. за адзін квадратны інч тэксту.
3. **За клішы:** шырынёй у вадну газэтную шпальту — 6.00 дал., у дзьве шпальты — 10 дал., у тры шпальты — 15.00 дал.

**Аплата згары пры замаўленьні.**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**